ла ў Лондоне. Кожнае праціўленьне якога-будзь расейскага грамадзяніна загадам Літвінова або Карпінскага будзе разгледацца, як праступак проці гасударства.

АМСТЭРДАМ. Большэвіцкі урад зажадаў выдачы расейскага золата, якое знаходзіцца ў англіцкім банку ў Лондоне, але спаткаўся з адмовай.

ШТОКГОЛЬМ. Ленін падпісаў дэкрэт аб роспуску гасударственай рады і скасаваньні гасударственай канцэлярыі.

Ленін пастанавіў запрасіць украінскую раду на конфэрэнцію дзеля развязкі спорных спраў між украінскай радай і урадам народных камісараў.

ВЕНА. На аўстрыяцкім фронці атрымана адозва праз тэлеграф бяз дроту, каторая прызывае афіцэраў і салдатаў расейскай арміі паступіць у амэрыканскую службу з варункам строгай дысцыпліны іпоўнай слухмянасьці.

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг вестак з Украіны, тамтэйшае расейскае войска абязброено і выслано дамоў. Галовы большэвікоў арэштованы, і ўвесь палудзенна-заходні і румынскі фронт знаходзяцца пад камандай генэрала Шчэрбачова, каторы гэтак камандуе ад Чорнага мора да Прыпяці.

## З усяго сьвету.

ШТОКГОЛЬМ. Шведзкі генэральны консул Альштрэм назначэн за шведзкага пасла ў Фінляндзію.

ЛОННН. «Morning Post» наказуе з Гэльсінгфорсу:

Расейскіе войскі атрымалі с Пецярбурга загад ачысьціць Фінляндзію, ў тым ліку і Гэльсінгфорс. Выборскі округ выключаецца з гэтага.

ВЕНА. Варункі міра, пададзеные Ллейдам Джорджэм, на пагляд тутэйшых дыплёматычных кругоў, зусім ня могуць быць прыняты, бо яны магчымы толькі у прыпадку поўнага разгрому цэнтральных дзержаў.

ШТОКГОЛЬМ. Першае заседаньне галандзка-скандынаўскага камітэту адбылося тут у панядзелак. На заседаньнях будуць як большэвікі, так і меньшэвікі. Глаўны пункт праграмы—нарада аб сазыве агульнай інтэрнацыональнай социалістычнай конфэрэнціі і адозве да ўсіх партый розных старон.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня.

**8. I. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: На паадзінокіх адрэзках у Фляндрыі і на палудзенным заходзі ад Камбрэ момэнтамі востры агонь. Наступленьня англіцкіх рот пры Бількур адбіты.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскага*: У палудзенна - заходнім Эльзасе ўчора ў вечары узнялася вострая артылерыйская бітва, трываўшая і сягоньня раніцай.

**Македонскі фронт.**

Між вазёрамі Охрыда і Прэсба, ў завароці Чэрнай і між Вардарам і Дойранам—жывейшая артылерыйская чыннасць. Нашы егры ўварваліся ў акопы, дзе раней былі расейцы, і ўзялі палонных французаў.

**Італьянскі тэатр.**

Проці Монтэ Ассолёне і на адрэзку П'явэ на поўначы ад Відорэ вострая артылерыйская бітва, трываўшая і ў начы.

**9.I. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Пасьля сільнай падгатоўкі агнём дружыны англіцкіх разведчыкоў наступалі на палудзенны край лесу Гутгольст і на чыгунку Бэссінгэ-Стадэн. Ворагі ўсюды адкінуты нашым агнём і мелі вялікіе страты. Наабапол Лепс — жывейшы агонь артылерыі. На усходзі ад Більку͡р—бітва ручнымі гранатамі.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскага:* На заходзі ад Флірэ французы пачалі паабедзі штурм на шырыні 4 кіл. і ў некаторых пунктах уварваліся на лінію нашых варт. У начы контратакамі мы выкінулі ворагаў назад на іх ранейшые пазыціі.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ЖЭНЕВА. «Echo de Paris» піша, што с прычыны разгрому англічан пры Камбрэ у англіцкай глаўнай камандзе будуць зроблены перамены. Генерал Дуглас Гэг атрымае іншае становішчэ.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). **Урадова.** Пояс блокады устаноўлен ад 11 студня такжэ навакол Зялёнага Мыса і порту Даккар на афрыканскім узбярэжжы, а ад 18 студня—і навакол Мадэйры.

ЛОНДОН (Рэўтэр). **Урадова.** У Сяродземным моры варожая падводная лодка затапіла англіцкі мінаносец.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нашы падводные лодкі ізноў затапілі навакол Англіі 20.000 тонн.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Атлянтыцкім акіані і канале Ляманш нямецкімі падводнымі лодкамі ізноў затоплены 5 параходаў і 1 парусьнік.

БЭРН. «Berner Tagbl.» піша:

Японія фактычна паслала у Эўропу некаторые тэхнічные атрады. У японскіх газэтах ідзе спорка, пасылаць, ці не японскае войска. Большая часць газэт—проці учасьця Японіі ў сухапутнай вайне.

## АБВЕСТКІ.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей